# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 32 (1578) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 10 ЖНІЎНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.





Харавы калектыў з хутароў Хільмоны.

## МОВА ЯДНАЕ

*Як мы ўжо пісалі ў папярэднім нумары „Нівы", у Філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку 1-5 ліпеня г.г. праходзіла Міжнародная канферэнцыя на тэму „Моўная разнастайнасць Паўночна-Усходняй Польшчы", у якой прыняла ўдзел група вучоных з Савецкай Беларусі. Наш журналіст звярнуўся да аднаго з іх — вядомага дыялектолага Лілії Ціханаўны Выгоннай з некалькімі пытаннямі.*

**„Ніва":** Лілія Ціханаўна, нашым чытачам ваша прозвішча вядома, асабліва тым, хто займаецца дыялектамі і польска-беларускімі моўнымі ўзаемасувязямі. Аднак мы хочам крыху больш ведаць пра вашу асобу, навуковы шлях, дзе працуеце...

**Л. Ц. Выгонная:** Мой навуковы шлях тыповы для многіх беларускіх мовазнаўцаў. Спачатку вучылася ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна на філалагічным факультэце, а потым пачала працаваць у Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларускай ССР. У гэтым Інстытуце працую і зараз. Вывучэннем беларускіх гаворак я захапілася яшчэ ў студэнцкія гады. Больш за дваццаць год працягваецца маё дыялекталагічнае падарожжа. І кожная новая сустрэча ўзбуджае такое ж хваляванне, як першая. У час дыялекталагічных экспедыцый мы знаёмімся з такімі добрымі, шчырымі і разумнымі людзьмі, гутарка з якімі ўзбагачае, робіцца вельмі істотнай часткай нашага жыцця.

**„Ніва":** З вашым імем звязана многа адкрыўчых прац у вывучэнні беларускіх гаворах. Якія свае работы вы лічыце самымі каштоўнымі вашымі асабіста дасягненнямі?

**Л. Ц. Выгонная:** З найбольш цікавых і важных прац, у якіх я прымала ўдзел, варта прыгадаць калектыўныя працы „Лексіка Палесся", „Палессе", „Лексіка Палесся ў прасторы і часе", у якіх асабіста мною прааналізавана дыялектная земляробчая лексіка.

Працы „Галосныя беларускай мовы", „Фанетыка слова ў беларускай мове" прысвечаны вывучэнню гукавага ладу беларускай мовы.

Аддзел эксперыментальнай фанетыкі, членам калектыву

(Працяг на стар. 2)

## У Прэзідыуме ГП

Чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ адбылося 16 ліпеня г.г. у Гайнаўцы. Мела яно іншы, чым заўсёды характар. Спачатку члены Прэзідыума сустрэліся ў кабінеце беларускай мовы Гайнаўскага беларускага ліцэя з удзельнікамі студэнцкага рэйду „Бацькаўшчына-3".

Прысутных прывітаў дырэктар ліцэя Аляксандр Іванюк. Затым намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня паінфармаваў моладзь аб падрыхтоўцы да пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Удзельнікі рэйду цікавіліся многімі праблемамі, звязанымі з ідэяй пабудовы Беларускага музея. На пытанні студэнтаў адказваў старшыня ГП БГКТ д-р Аляксандр Баршчэўскі.

Пасля сустрэчы ў ліцэі члены Прэзідыума ГП супольна са студэнцкай моладдзю наведалі пляц і будынак, у якім пасля рамонту і разбудовы будзе змяшчацца наш музей.

Адтуль удзельнікі рэйду „Бацькаўшчына-3" выйшлі ў сваё 5-дзённае падарожжа па Беласточчыне, а члены Прэзідыума ГП, вярнуўшыся ў клуб БГКТ, працягвалі пасяджэнне.

Галоўнай тэмай у парадку дня была інфармацыя аб дзейнасці Грамадскага камітэта пабудовы

(Працяг на стар. 4)

## УПЕРШЫНЮ Ў ХІЛЬМОНАХ

Арганізаваць беларускі фэстын там, дзе няма ніякіх традыцый, — справа няпростая. Дуброўскі аддзел БГКТ мае на сваім рахунку ўсяго толькі адну такую імпрэзу. Вось таму вельмі карысная яму была падтрымка гмінных улад Новага Двара на чале з першым сакратаром гміннага камітэта ПАРП Станіславам Лабенцам і начальнікам гміны Рышардам Лукашчыкам. Яны дапамаглі забяспечыць урачыстасць аркестрам навадворскай добраахвотнай пажарнай каманды, транспартам для давозу харавых калектываў. А Навадворская гміна, якою яны кіруюць, вельмі цікавая. Тут згодна жывуць палякі і беларусы. У штодзённым жыцці амаль усе карыстаюцца беларускай моваю і супольна ўносяць немалы ўклад у развіццё сваёй мясцовасці. Тут кожны восьмы дарослы чалавек з'яўляецца членам альбо кандыдатам ПАРП, тут не трэба рабіць спецыяльных арганізацыйных захадаў пра грамадскія пачыны — людзі ахвотна прымаюць у іх удзел.

Перад X з'ездам ПАРП жыхары Хільмонаў шмат папрацавалі грамадска пры пабудове трохкіламетровага адрэзка дарогі, што дазволіла адкрыць аўтобусную лінію. 15 чэрвеня з гэтай нагоды адбылася ў Хільмонах урачыстасць, спалучаная са святам маладосці. Задаволены ўсе жыхары вёскі і хутароў, а таксама жыхары суседніх вёсак, бо аўтобус тры разы ўдзень ходзіць праз Дуброву аж у Саколку. Аблегчыў ён быт сялянам, якія мелі 4 км да аўтобуснага прыпынку і 7 км да чыгуначнай станцыі, а многім было і значна далей.

12 ліпеня, субота. Людзі сабраліся каля школы ў Хільмонах. Дзень быў ветраны, неба абклалі хмары. Але настрой панаваў урачысты. Ствараў яго аркестр пад кіраўніцтвам Уладзіміра Андрукевіча. Над трыбунай, упрыгожанай бярозкамі, на чырвоным палатне надпіс апавяшчаў, што ў Хільмонах святкуюць XXX год БГКТ і „Нівы", а на франтоне школы другі сардэчна вітаў прыбыўшых на народны фэстын.

Але вось суцішыўся аркестр. Некалькі соцень чалавек наблізілася да трыбуны. Старшыня Дуброўскага аддзела БГКТ Ар-

(Працяг на стар. 3)

(Працяг са стар. 1)

# МОВА ЯДНАЕ

якога я з'яўляюся, падрыхтаваў таксама вялікую працу „Граматыка беларускай мовы. Фанетыка". Яна павінна выйсці з друку ў бліжэйшы час.

**„Ніва"**: Нам вядома, што вы ўжо больш дзесятка год супрацоўнічаеце з польскімі беларусістамі, асабліва з дац. д-р Эльжбетай Смулковай. Як узнікла гэтае супрацоўніцтва і які яго плён?

**Л. Ц. Выгонная:** Працы польскіх беларусістаў добра вядомы ўсім, хто вывучае беларускую мову. З працамі дацэнт доктар Эльжбеты Смулковай я пазнаёмілася ў той час, калі займалася аналізам палескай земляробчай лексікі. Яны былі для мяне асабліва карыснымі, бо ў беларускіх беластоцкіх гаворках ужываюцца такія земляробчыя тэрміны, якія вядомы таксама на Палессі і Гродзеншчыне.

Потым Эльжбета Смулкова прыехала да нас у Мінск, дзе мы і пазнаёміліся. Разам працавалі ў дыялекталагічных экспедыцыях, абмяркоўвалі складаныя пытанні з галіны лексікалогіі і фанетыкі. Вынікам гэтых размоў былі сумесныя артыкулы, якія друкаваліся ў беларускіх і польскіх навуковых выданнях. Найбольш буйны з іх „Лексічны паралелізм беларускіх гаворак паўночна-ўсходняй Польшчы і Прыпяцкага Палесся", змешчаны ў штогодніку „Беларуская лінгвістыка".

**„Ніва"**: Вы, пэўна, не першы раз на Беласточчыне? Якія вашы ўражанні з нашага рэгіёна. Ці мо займецеся вывучэннем нашых беластоцкіх беларускіх гаворак?

**Л. Ц. Выгонная:** На Беласточчыне я ўпершыню. Працуецца нам на цяперашняй сустрэчы з нашымі польскімі калегамі так добра і плённа, што мы яшчэ нават не мелі часу на знаёмства з горадам Беластокам.

Беларускія беластоцкія гаворкі вельмі цікавыя і ў адносінах лексікі, і ў адносінах фанетыкі. У бліжэйшы час я буду працаваць з матэрыяламі Фанатэкі беларускай літаратурнай мовы і беларускіх гаворак Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларускай ССР, бо аналіз вуснага маўлення вельмі патрэбны зараз для вырашэння пытанняў беларускай арфаэпіі і культуры мовы.

**„Ніва"**: Якія планы ў беларускіх і польскіх дыялектолагаў і наогул мовазнаўцаў у далейшым супрацоўніцтве?

**Л. Ц. Выгонная:** Аб гэтым вам больш падрабязна раскажа Павел Аляксандравіч Міхайлаў, загадчык аддзела дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР, які восьпобач з намі.

**П. А. Міхайлаў:** З польскімі калегамі ў нас даўнія сувязі. Перш за ўсё хацелася б тут прыгадаць нашу сумесную шматгадовую працу над стварэннем Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа, дзе мы заўсёды абменьваліся многімі карыснымі і цікавымі для абодвух бакоў ідэямі і метадамі сучаснай лінгвагеаграфічнай работы. Разам з калегамі з Інстытута славяназнаўства ПАН (С. Глінкам, Э. Смулковай, М. Кандрацюком, Я. Глушкоўскай, Т. Ясінскай-Сохай і інш.), дыялектолагі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР падрыхтавалі пяцітомны „Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча", які з'яўляецца значнай падзеяй у беларускай дыялектнай лексікаграфіі і высока ацэнены навуковай грамадскасцю як у нашай краіне, так і за мяжой, у тым

(Працяг на стар. 3)

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## УЗНАГАРОДА

Вядучым прадпрыемствам галіны стала магілёўскае вытворчае аб'яднанне „Хімвалакно". Яно дае пятнаццаць працэнтаў агульнага аб'ёму выпускаемых у краіне хімічных валокнаў і ніцей. Асаблівa важкія вынікі флагмана хімічнай індустрыі ў адзінаццатай пяцігодцы. За гады яе выпуск прадукцыі павялічан больш чым у паўтара раза. У строй дзеючых уведзены дзве буйныя вытворчасці, праектныя магутнасці якіх асвоены датэрмінова. За кошт гэтых і іншых фактараў за пяцігодку выпушчана звышпланавай прадукцыі больш чым на семдзесят мільёнаў рублёў, асвоены 52 новыя віды тавараў народнага спажывання, а вытворчасць іх павялічана амаль у тры разы.

За вялікі ўклад у развіццё вытворчасці хімічных валокнаў, датэрміновае выкананне планаў адзінаццатай пяцігодкі і сацыялістычных абавязацельстваў аб'яднанне ўзнагароджана ордэнам Леніна.

## ТРАКТАРЫ — ПОЛЬШЧЫ

980 трактароў МТЗ-82 адправілі з пачатку года ў Польскую Народную Рэспубліку беларускія трактарабудаўнікі. Узяты тэмп паставак значна апярэджвае графік: за год згодна з доўгатэрміновай праграмай супрацоўніцтва мінчане павінны перадаць нашай краіне 1200 машын.

Першую пастаўку трактароў ПНР мінчане зрабілі больш трыццаці гадоў назад. Гэта былі 12 машын маркі МТЗ-2, якія вельмі добра сябе зарэкамендавалі на палях польскіх кааператываў. У хуткім часе пастаўкі выраслі да 150 машын. А ў 1960 годзе Мінскі трактарны завод перадаў Варшаўскаму прадпрыемству „Урсус" канструктарска-тэхнічную дакументацыю для выпуска ў Польшчы МТЗ-5.

## МУЗЕЙ ХЛЕБА

У новай сярэдняй школе № 3 г. Беразіно стварылі музей хлеба. Гэты незвычайны музей дапамагае эфектыўна выхоўваць вучнёўскую моладзь.

Тут, у школе, добра спалучаецца навучальны працэс і праца ў сельскагаспадарчай вытворчасці. З дзяцінства яе выхаваныя пераконваюцца ў тым, што хлеб пачынаецца з зямлі, разам з бацькамі працуюць на палях.

Пры ўваходзе ў музей хлеба адразу заўважаеш боханы чорнага і белага хлеба з жоўта-карычневымі скарынкамі розных памераў, якія ляжаць на паліцах. Побач жорны, ступа, дзежка, якія неабходны для прыгатавання хлебнага цеста, і іншыя хатнія рэчы часоў мінулага. Тут жа печ, складзеная з чырвонай цэглы.

## БАРАЦЬБА З П'ЯНСТВАМ

30 чэрвеня пад старшынствам намесніка Старшыні Савета Міністраў БССР К. З. Цераха адбылося пасяджэнне Рэспубліканскай камісіі па барацьбе з п'янствам.

Разглeджана пытанне аб рабоце працоўнага калектыву Магілёўскага вытворчага аб'яднання металавырабаў Мінмясцпрома БССР па ўмацаванню дысцыпліны і папярэджанню п'янства ў святле патрабаванняў Закона СССР „Аб працоўных калектывах і павышэнні іх ролі ў кіраванні прадпрыемствамі, установамі, арганізацыямі", а таксама пастаноў партыі і ўрада па барацьбе з п'янствам і алкагалізмам.

Адзначана, што, нягледзячы на рад прынятых мер, гэта работа ў аб'яднанні не адпавядае патрабаванням сённяшняга дня. На прадпрыемствах, у цэхах, на ўчастках і ў брыгадах не створана абстаноўка нецярпімасці да асоб, якія парушаюць дысцыпліну і грамадскі парадак, злоўжываюць спіртнымі напіткамі. Не зжыта заганная практыка прэміравання прагульшчыкаў і п'яніц. У многіх выпадках ім не змяншаецца на колькасць дзён прагулу чарговы водпуск. Асобныя кіраўнікі скрываюць прагулы, іншыя парушэнні, а некаторыя службовыя асобы з'яўляюцца ініцыятарамі і ўдзельнікамі п'янак.

Рэспубліканская камісія запатрабавала ад кіраўнікоў аб'яднання забяспечыць карэнную перабудову работы па паляпшэнню працоўнай дысцыпліны і папярэджванню п'янства.

## ІВАН ГРАМОВІЧ

2 ліпеня 1986 года на 68-м годзе жыцця пасля цяжкай хваробы памёр вядомы беларускі пісьменнік Іван Грамовіч.

З-пад пяра Івана Грамовіча выйшлі кнігі: „Апавяданні", „Агні пяцігодкі", „Першае верасня", „Сонца скрозь воблакі", „Шырокія азёры", „Да ясных вышыняў", „У лесе, на палянцы", „Рына-Марына", „Далі сабе слова" „У сховах памяці і сэрца". Ён аўтар некалькіх зборнікаў гумару. На яго творчым рахунку — сцэнарыі дакументальных і відавых фільмаў, шмат перакладаў на беларускую мову твораў рускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў.

## СПОРТ

■ На чэмпіянаце краіны па кулявой стральбе на алімпійскім стрэльбішчы ў Маскве некалькі высокіх вынікаў паказалі беларускія спартсмены. С. Лузаў перамог у стральбе па „бягучаму дзіку" з вынікам 695 ачкоў. Яго поспех значна дапамог камандзе Беларусі з 1.758 ачкамі заняць другое прызавое каманднае месца. Л. Цвяткова з вынікам 478 ачкоў заняла другое месца ў стральбе з пнеўматычнага пісталета. І. Басінскі заняў першае месца ў стральбе на 50 метраў з малакалібернага пісталета — 660 ачкоў.

■ Па выніках мінулага першынства краіны як ніколі многа гандбалістаў мінскага СКА запрошана ў зборную краіны — А. Карашкевіч, Ю. Шаўцоў, А. Маліноўскі, К. Шараварaў, М. Масалкоў, Г. Свірыдзенка, А. Тучкін, Э. Скораў.

# НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

## ФОНД СПАДЧЫНЫ

Апошнім часам пры Белым доме ўсё гучней чуваць голас клана заціятых рэакцыянераў, які носіць назву фонд спадчыны.

Але сапраўды „зорны час" для фонда спадчыны надышоў у лістападзе мінулага года, калі рыхтавалася сустрэча на вышэйшым узроўні ў Жэневе. Тады фонд спадчыны прагрымеў на ўвесь свет сваім пасланнем прэзідэнту, дзе кіраўніку адміністрацыі ЗША прадпісвалася працягваць гонку ўзбраенняў, не даваць Савецкаму Саюзу магчымасці пераключыць сродкі на здзяйсненне сацыяльна-эканамічных праграм.

Трэба адзначыць, што такая тактыка націску на прэзідэнта не раз ужо практыкавалася раней і прыносіла свой плён. У сувязі з гэтым нельга не прыпомніць так званыя „мандаты на кіраўніцтва". Гэтыя дакументы былі падрыхтаваны фондам спадчыны да прэзідэнцкіх выбараў 1980 і 1984 года. Аб універсальным, на ўсе выпадкі жыцця, характары матэрыялаў гаворыць той факт, што першы з дакладаў складаўся з 20 тамоў і 1.270 рэкамендацый, а другі ўключаў 1.300 парад. Сутнасць іх — прапаведзь палітычнай рэакцыі на ўсіх напрамках.

Фонд спадчыны не задавальняецца, аднак, толькі распрацоўкай і перадачай дзеячам адміністрацыі рознага роду даследаванняў і аналітычных запісак, каментарыяў і г.д.. Ён раўніва сочыць за іх рэалізацыяй, строга спаганяючы з прэзідэнта і іншых афіцыяльных асоб за любы адыход ад зададзенага курсу. Гэтаму служаць штогадовыя аналізы амерыканскай унутранай і знешняй палітыкі, якія публікуюцца фондам спадчыны. Калі верыць прэзідэнту фонда Эдвіну Фулнеру, то 61 працэнт з 1.270 рэкамендацый, якія ўвайшлі ў „мандат на кіраўніцтва — 1", быў рэалізаваны рэйганаўскай адміністрацыяй у першым чатырохгоддзі.

Аб блізкасці фонду спадчыны да творцаў афіцыяльнай палітыкі сведчыць і такі факт: пры ім дзейнічае так званы „прэзідэнцкі клуб", дзе за 1.000 долараў ці нават больш асобным кансерватарам даецца, паводле слоў Э. Фулнера, „доступ да тых вашынгтонскіх палітыкаў, сустрэцца з якімі звычайна нельга ні за якую плату". Пастаянна „гасцююць" у прэзідэнцкім клубе сенатары і кангрэсмены, кіраўнікі дзяржаўных устаноў.

Апрача гэтага, фонд спадчыны з'яўляецца вядучым пастаўшчыком інфармацыі 450 групоўкам і фарміраванням „правых" у ЗША. І ў гэтым сэнсе назву „ідэалагічнага штаба" або гнязда амерыканскай рэакцыі ён носіць заслужана.

А.М.

# МОВА ЯДНАЕ

(Працяг са стар. 2)

ліку і ў Польскай Народнай Рэспубліцы. Ужо выйшлі з друку чатыры тамы Слоўніка, а ў канцы гэтага года будзе апублікаваны і заключны пяты том. Не першы год супрацоўнічаюць беларускія і польскія лінгвісты ў справе збору і вывучэння анамастыкі Брэстчыны і Беласточчыны. Вынікам гэтага супрацоўніцтва з'явіўся зборнік „Беларуская анамастыка. 3", выдадзены ў Мінску ў 1985 годзе. У ім побач з артыкуламі беларускіх вучоных, прысвечанымі вывучэнню анамастыкі Брэстчыны, змешчаны таксама тры артыкулы польскіх вучоных аб асабовых назвах Беласточчыны. Акрамя таго завяршаецца сумесная работа над манаграфіяй „Мікратапанімія Белавежы". У бліжэйшыя гады мяркуецца працягваць сумесныя навуковыя даследаванні ў вышэй названых напрамках. З 1986 г. Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР і Інстытут славістыкі ПАН распачынаюць новую цікавую і выключна каштоўную для абодвух бакоў работу па падрыхтоўцы „Беларуска-польскага фразеалагічнага слоўніка". Спадзяюся, што ў будучым мы яшчэ больш пашырым наша навуковае супрацоўніцтва, што, безумоўна, прынясе вялікую карысць як беларускаму, так і польскаму мовазнаўству.

**„Ніва"**: Дзякуем вам за размову.

Гутарыла **Міра Лукша**
Фота **Я. Чэрнякевіч**



Г. Арашонкава і Л. Выгонная.



П. Міхайлаў і Г. Цыхун.

# УПЕРШЫНЮ Ў ХІЛЬМОНАХ

(Працяг са стар. 1)

кадзь Суліма прывітаў гасцей, адкрыў урачыстасць і перадаў слова І сакратару гмiннага камітэта ПАРП Станіславу Лабенцу. С. Лабенец моцна падкрэсліў аб'ядноўваючую ролю БГКТ, яго значэнне ў грамадскім жыцці, асабліва ў культурнай працы, і выказаў усебаковую падтрымку дзейнасці БГКТ з боку гмінных улад і пажадаў гурткам Беларускага таварыства поспехаў у працы.

Затым з дакладам выступіў сакратар Галоўнага праўлення БГКТ Віталі Луба. Ён на шматлікіх прыкладах пераканаўча паказаў прысутным значныя дасягненні БГКТ за трыццаць год дзейнасці.

Далейшым пунктам праграмы фэстыну была мастацкая частка, сарганізаваная сіламі мясцовых аматарскіх калектываў. Першым выступіў хор з вёскі Хільмоны і пачаў з калектыўна створанай песні аб першым у гэтай вёсцы беларускім народным фэстыне. І песня, і ўсё выступленне слухачам вельмі спадабалася.

Зміяніў харыстаў з вёскі Хільмоны калектыў з хутароў Хільмоны, душой якога з'яўляецца Вольга Каленік. Яна таксама падрыхтавала да выступлення на сцэне сваіх унукаў — трохгадовага Андрэя, пяцігадовую Віялету і шасцігадовую Аню. Гэта быў надта ж мілы нумар праграмы.

За свае песні харысты з Грабянёў таксама атрымалі гарачае брава.

Аматарам з Сынкаўцоў давялося выступаць у школьным будынку, бо лінуў дождж. Гэтыя харысты выступалі ўпершыню. Заахвоціў іх да песні старшыня аддзела А. Суліма, які шмат разоў наведваў іх вёску, гутарыў са спевакамі.

Потым дэманстравалі сваю вывучку і спрыт члены добраахвотніцкай пажарнай каманды з Дубровы.

Кніжная латарэя з выданнямі БГКТ таксама карысталіся поспехам.

Як вынікала з выказванняў многіх жыхароў Хільмонаў, ад гэтага фэстыну тут распачнецца традыцыя свята беларускай песні і беларускага слова.

**Міхась Хмялеўскі**
Фота аўтара



Выступае з прамовай першы сакратар КГ ПАРП у Новым Двары Станіслаў Лабенец. Побач стаяць: сакратар ГП БГКТ Віталі Луба, старшыня аддзела БГКТ у Дуброве Аркадзь Суліма, радны Ваяводскай рады нарадовай Уладзімір Кудзін, сакратар Гмінна-Гарадскога камітэта ПАРП у Дуброве Іван Жданук і начальнік Гміннага ўпраўлення ў Новым Двары Рышард Лукашук.



Спявае хор з Сынкаўцоў.



Удзельнікам фэстыну кожнае выступленне было цікавае.

вальняючы выглядае аплочванне складчын у некаторых аддзелах, не выкананы даходы з канцэртаў мастацкіх калектываў і продажы выдавецтваў. У сувязі з тым вырашана абавязаць штатнае кіраўніцтва ГП прыняць арганізацыйныя меры з мэтай выканання ў бягучым годзе планаваных даходаў.

У далейшым член Прэзідыума ГП, дэлегат на X з'езд ПАРП тав. Аляксей Карпюк расказаў аб ходзе З'езда, яго атмасферы, выніках і пастановах. Прэзідыум ГП звярнуўся з заклікам да ўсіх членаў і сімпатыкаў актыўна ўключыцца ў рэалізацыю пастаноў X з'езда ПАРП. Вырашана арганізаваць сустрэчы БГКТ-оўскага актыву з дэлегатамі на X з'езд ПАРП, а таксама папулярызаваць на старонках „Нівы" дэлегатаў, іх прафесіянальную і грамадскую працу. У заканчэнні пасяджэння былі разгледжаны арганізацыйныя справы, звязаныя з бягучай працай Галоўнага праўлення БГКТ.

**В. Луба**

# Галадоўскія пажарнікі

**У кожнай большай мясцовасці існуе каманда пажарнікаў. У Галадах іхным камендантам з'яўляецца Міхась Пятроўскі. Усіх галадоўскіх пажарнікаў — пяцьдзесят. Яны вельмі шмат робяць у так званых грамадскіх пачынах (не часта пажары, дзякуй Богу!). Садзілі лес на месцы мінулагодніх вырубак, ачысцілі роў ля дарогі ў Агародніку, пакарчавалі выжары, вазілі жвір на дарогу. Галадоўцы хваляць сваіх пажарнікаў за іх грамадскія адносіны да спраў вёскі: паладзілі дарогу ў Міклашы, якою калісьці было не прайсці-не праехаць, калі ішла вясна або дажджыла восень.**

**У гэты год яны надумалі пашырыць сваю рамізу так, каб тутэйшыя людзі маглі ў ёй спраўляць таксама свае вялікія сялянскія ўрачыстасці, вяселлі або хрэсьбіны, на якія зазвычай спрашваецца тлум сваякоў, блізкіх і далёкіх. Самі яны нарыхтуюць пустакі — абы цэмент толькі быў! — і гаспадары ім дапамогуць. Вядома, так будзеш жыць, як сам сабе задбаеш. І гэта добра разумеюць у Галадах. Ходзяць тут каля сваіх спраў, што аж прыемна глядзець. Каб так усюды было, то іначай выглядалі б нашы, некаторыя ўсё яшчэ па-даўняму задрыпаныя, вёскі.**

**Андрэй Гаўрылюк**

# Мінула ўжо 106 год

Еўдакія Нэйман нарадзілася 11 чэрвеня 1880 года ў Саках, што пад Кляшчэлямі. Многа год жыла яна ў часах царскага панавання. Вышла замуж за парабка Тамаша Нэймана, які паходзіў з-пад Мельніка. Яны разам працавалі ў розных панскіх маёнтках.

У 1924 годзе муж яе памёр, засталося трое дзяцей. Чацвёртае дзіцё, сын Іосіф, нарадзіўся пасля смерці бацькі ў 1925 годзе.

Цяжка жылося ўдаве з чатырма сіратамі. Спазнала яна многа гора і недастатку. У 1936 годзе апынулася гэтая сямейка ў маёнтку ў Падбеллі. Ад таго часу па сённяшні дзень жыве бабуля пры сваім сыне Іосіфе.

Пры народнай уладзе тут, у Падбеллі, атрымалі яны гаспадарку з зямельнай рэформы. Пачалі гаспадарыць самастойна, сталі на ногі, зраўняліся з людзьмі.

Бабуля Еўдакія мае 4 унукаў, каля 30 праўнукаў, а колькі ў яе прапраўнукаў — не магла яна і прыпомніць.

Бабулі Еўдакіі зычым моцнага здароўя.

Тэкст і фота
**Міхася Хмялеўскага**



былі і галодныя — гісторыя так гаворыць і сведкі тых падзей. Праўда, вайсковая часць, у якой быў той салдат, адышла далёка наперад і забеспячэнне засталося дзесяткі кіламетраў за ёю. Так піша Петручук і, магчыма, харчы выйшлі і салдат настолькі згаладнеў як на пустыні, што застаўся босы.

Парабак Васіль не падае вёскі, дзе ён гараваў у часе акупацыі, але калі назваў Сахаровую хату, дык нам вядома, што гэтыя падзеі адбыліся (і ці адбыліся?) у вёсцы Ялёнка. А тут людзі не такія ўжо і дрэнныя. Калі салдат сапраўды шукаў хлеба і трапіў на таго паскуднага багацея, дык парабак павінен быў паказаць байцу больш спагадлівых людзей у той вёсцы, якія яму і дарам хлеба далі б. Але брава Васілю, што ён ад гэтай крыўды амаль не захварэў ад роспачы і схапіў з гаспадарскай каморы буханку хлеба і пабег шукаць пакрыўджанага салдата Гусева. Канец гэтай драматычнай гісторыі-беганіны мы ўжо ведаем.

Хочацца запытаць самога В. Петручука, як былага салдата, а пасля афіцэра Войска Польскага: ці ён свае чаравікі з ног памяняў бы на чвэрць буханкі хлеба? Які б ён не быў галодны ў найгоршы час нават і басіком прадставіўся б перад сваім камандзірам і таварышамі? І як яго прынялі б?

Босы салдат перад строем?! О, якая ганьба і паніжэнне! Хто чытаў аповесць Мікалая Астроўскага „Як гартавалася сталь", дык ведае, што там ёсць месца, дзе пятлюраўскія ваякі, усялякі зброд, ішлі маршам басіком і адзін нават упаў у страі на зямлю. І сам атаман Пятлюра не змог скрыць усмешкі з такога войска.

Тут, дарагі Петручук Васіль, за далёка загнулі. Як я ведаю, праўдзівы савецкі салдат свае боты не будзе мяняць ні за што і босы не пойдзе ў строй, ці да сваіх таварышоў. У яго гонар даражэй свайго жыцця і мы былі сведкамі гэтых падзей у часе апошняй вайны.

**М. Панфілюк**

вай для версіі пра разгром татара-валынскіх войск з пераносам месца бітвы на Нёман каля Магільна". Магільна — гэта ў тыя часы моцная крэпасць, на яе месцы сёння знаходзіцца мястэчка з такой жа назвай. Яно распалажана на левым беразе Нёмана ў Уздзенскім раёне, каля 100 км на паўднёвы-захад ад Мінска. Легенда пра разгром вялікім князем галіцка- валынскіх і татарскіх войск захавалася у некалькіх спісках, увайшла амаль ва ўсе беларускія летапісы. Прыгадваем яе па Еўраінаўскім летапісе, у якім чытаем, што вялікі князь „княжив не мало... на Новегородце и на многих городех руских. И учинили совет меж собою князи руские" (г. зн. галіцка-валынскія — М.Г.) ды пачалі вайну „хотя его согнати из вотчин своих, городов руских". Сабраліся з войскамі сваімі і ўзялі „на помоч собе от царя заволского неколко тысящ татар". Сустрэў іх вялікі князь „на реце Немне на Могилном" ды „учинил" з імі „бой лют". „И билися межи собою от утра и до вечера". І „поможе Бог великому князю аже князей руских и всю силу их и орду татарскую наголову поразил и сам с победою и с великим веселием и добытком злата и сребра" вярнуўся дамоў у Наваградак.



Аблога Горадні ў 1277 годзе. Графіка У. Петрука.

Таксама і татарам надоўга адхацелася хадзіць самім ды гнаць падпарадкаваных сабе князёў рускіх рабаваць Вялікае княства Літоўскае. Але з таго часу гэтая грабежніцкая арда зачасціла сваімі нашэсцямі на польскія землі, асабліва ў Малапольшчу.

І так Трайдэн пераможна адбіў наступ татараў і былых у іхняй „волі" рускіх князёў на Вялікае княства Літоўскае.

Забяспечыўшы ўсходнія і паўднёвыя рубяжы дзяржавы, Трайдэн пачаў расквітвацца з заходнімі суседзямі за нейкія іхнія ранейшыя грашкі — мабыць, за напады на Яцвяжскую зямлю. Галіцка-Валынскі летапіс паведамляе, што ў 1278 годзе „Трайдэн... выслаў вялікае войска супраць палякаў, і брата свайго Сірпуця паслаў. Былі тады з імі таксама яцвягі. Ваявалі каля Любліна тры дні і ўзялі незлічонае мноства палонных. І гэтак вярнуліся дамоў з чэсцю вялікай".

Беручы пад увагу распалажэнне Любліна, не цяжка сцвердзіць, што Трайдэнавы дружыны, відаць, ішлі старым шляхам з Гародні на Адэльск. Крынкі, Гарадок, Нарву, Бельск, Дарагічын, Морды, Лукаў, Коцк. Значыць, праходзілі туды і назад цераз тадышнія ўладанні князёў галіцка-валынскіх і тыя не варухнулі нават і пальцам супраць учарашніх сваіх ворагаў. Мабыць гэта ішла вялікая сіла, таму ні Уладзімір Васількавіч, ці нават запальчывы Леў Данілавіч не наважыліся нападаць на Трайдэнава войска, каб не выклікаць нашэсця яго на свае княствы. Зрэшты, на князёў галіцка-валынскіх само імя Трайдэна наганяла звярыны жах, чаму даў выраз іхні летапісец, раўнуючы вялікага князя літоўскага з Анціёхам Сірыйскім, Ірадам Іерусалімскім ды Неранам Рымскім.

**Мікола Гайдук**

### У МІХАЛОВЕ...

...гмінныя ўлады належна дбаюць пра вуліцы і не толькі. У мінулым годзе былі пракладзены тратуары на вуліцах Г. Сянкевіча і Фабрычнай (170 метраў).

Ідзе перабудова галоўнай двухкіламетровай вуліцы Беластоцкай у Міхалове, на ёй Раён публічных дарог пакладзе асфальт. Вуліца Беластоцкая будзе аднаўлена коштам 25 мільёнаў злотых.

Варта дадаць, што ў мінулым годзе былі адрамантаваны паўкіламетровыя адрэзкі вуліц у Тапалянах і Масцісках, а таксама 1 км дарогі на шляху Міхалова-Гарадок.

Жыхары Геранімова захацелі, каб у іх вёску ездзіў аўтобус ПКС. Яны намераны адрамантаваць мясцовыя дарогі. (яц)

### 40 КВАТЭРАЎ...

...пабудуе жыллёвы кааператыў у Міхалове. Шматсямейныя будынкі будуць падключаны да кацельнай і ачышчальні сцёкавых вод у філіяле Беластоцкага прадпрыемства ваўнянай прамысловасці імя Сяржана.

Затым шматсямейнае будаўніцтва ў Міхалове будзе спынена. У мястэчку над Супраслю неабходна пабудаваць ачышчальню сцёкавых вод. (яц)

### ПАТРЭБНЫ КЛУБ

Усім вядома, як цяпер на вёсцы патрэбны клубы, асабліва ў летні час, калі моладзь прыбывае на канікулы. У Альхоўцы (гм. Нараўка) амаль год пустуе школьны будынак. Гмінныя ўлады абяцалі тут адкрыць „Клуб кніжкі і прэсы". Ёсць ахвотная працаўніца, ёсць краты ў вокнах, але клубу ўсё няма. То „Санэпід" не даў згоды, то яшчэ чагосьці не хапае. І так справа цягнецца.

Кампетэнтныя ўлады павінны як найхутчэй закончыць гэтую валакіту ды адклад. Альхоўцам патрэбен клуб!

**М. В.**

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

Odpowiadając na list zamieszczony w tygodniku „Niwa" pt. „Niechaj wszystko lasem porośnie" z dnia 18 maja 1986 r. dotyczący zastosowania ulgi podatkowej z tytułu wypadku żony przy pracy w gospodarstwie i dokonanie korekty wymiaru zobowiązań pieniężnych Wydział Finansowy Urzędu Wojewódzkiego uprzejmie informuje:

Po przeanalizowaniu całości akt sprawy ustalono, że żona Obywatela uległa wypadkowi przy pracy w gospodarstwie rolnym w roku 1984, nie jak wynika z listu do Redakcji tygodnika „Niwa", że wypadek miał miejsce w 1985 r.

W związku z zaistniałym wypadkiem żona została skierowana na Komisję Lekarską, która orzeczeniem z dnia 25.09.1984 r. przyznała odszkodowanie za uszczerbek na zdrowiu w kwocie 10.000 zł.

Wniesione do Urzędu Gminy w Dubiczach Cerkiewnych podanie o umorzenie III raty zobowiązania pieniężnego z powodu choroby uznano za nieuzasadnioną i decyzją z dnia 22.11.1984 r. odmówiono umorzenia zobowiązania pieniężnego. Złożone odwołanie do Wydziału Finansowego Urzędu Wojewódzkiego od decyzji Naczelnika Gminy w tej sprawie również załatwione zostało odmownie. W tym okresie czasu III rata zobowiązania pieniężnego stała się już zaległością. W związku z tym Urząd Gminy w Dubiczach wszczął postępowanie egzekucyjne poprzez Skarbowy Urząd w Bielsku Podlaskim i zaległą kwotę w dniu 13.12.1984 r. Obywatel wpłacił bez odsetek za zwłokę.

Poza tym informuje się, że wniesienie podania o umorzenie zobowiązania pieniężnego nie wstrzymuje wykonania czynności egzekucyjnych.

W części dotyczącej zmiany wymiaru zobowiązań pieniężnych w związku ze zmianą klas gruntów wyjaśnia się, że na wniosek Wojewódzkiego Biura Geodezji Rejonowy Oddział w Hajnówce zapis w operacie ewidencji gruntów wprowadzono w m-cu styczniu 1986 r. czyli już po dokonaniu wymiaru zobowiązań pieniężnych na rok 1986.

Zgodnie z art. 3 ust. 1 i art. 4 ustawy z dnia 15 listopada 1984 r. o podatku rolnym (D. U. nr 52, poz. 268) do wymiaru przyjmuje się taki stan gruntów, jaki był w dniu 1 stycznia roku podatkowego zapisany w ewidencji gruntów. W przypadku Obywatela został zmieniony w styczniu 1986 r; a zatem wymiar za rok 1986 nie powinien być zmieniony.

Mimo to jednak w drodze wyjątku Urząd Gminy w Dubiczach Cerkiewnych decyzją Nr Fn. 3252/3/86 z dnia 13.06.1986 r. dokonał korekty wymiaru i odpisano podatek rolny w kwocie 538 zł.

Urząd Wojewódzki w Białymstoku
Wydział Finansowy
Z-ca Dyrektora Wydziału
*A. Piszczatowski*

## РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



Хутар каля Стараўляя на Сакольшчыне. Графіка У. Петрука.

## ГУТАРКА З ДАНКАЮ

Усе шпітальныя залы былі поўныя, толькі пад пятым нумарам — не. У ёй якраз і было адно месца для жанчыны, і мяне прывезлі сюды. Гэтая зала не падабалася нам усім, вокны ў ёй выходзілі на веранду і таму ўзімку цягнула ад іх яшчэ больш, чымсьці звычайна, холадам. Наймацней баяліся за нованароджаных дзяцей, каб не пазастуджваць іх.

Да Эвы часта прыходзіла Данка, якая ляжала „на падтрымцы". Гутарылі яны, пра што толькі хочаш. І я не маўчала. Да нас зыходзіліся і з іншых залаў, найчасцей з чацвертай.

У кожнага свае ёсць справы, свае беды. Але ў шпіталі чалавек шмат шчырэйшы, больш гаворыць не таячыся. У тае Данкі ніколі не было салодкага жыцця. Змалку спазнала яна гора і злыбяды.

— Дзяцей у нашай сям'і было многа, — гаварыла яна. — Таму заўсёды трэба было дапамагаць матцы. У мяне не было дзяцінства, не было і маладосці, паненства. Бацька чамусьці незлюбіў мяне.

Пачаў заходзіць да мяне адзін хлопец, нават на шлюб усё хілілася ўжо, але ў Каляду бацька выгнаў мяне з дому, а хлопцу тамтому нагаварыў быў усялякае ўсячыны. Хлопец выехаў, і столькі я яго і бачыла. Пасля прыслаў пісьмо мне, што ён да мяне не вернецца, і што знайшоў сабе ўжо іншую дзяўчыну. Ну, што мне было рабіць? Жыла я далей так, як лёс таго хацеў. Каб сыйсці бацьку з вачэй, выехала я ў Валбжых той, да сястры. Там і пазнаёмілася я са сваім цяперашнім мужам. Але, аднойчы, яшчэ тады прыехаў быў да мяне і мой былы хлапец. Ён вельмі перажываў за ўсё тое, што здарылася паміж намі; ён нават плакаў. Тая дзяўчына яго абдурыла, выманула толькі розныя дарагія падарункі ёй і, потым, паслала яго да ўсіх чарцей! „А для мяне трэба мала, — гаварыла я яму, — для мяне трэба, каб мужчына шанаваў мяне як жанчыну, і каб цаніў маю працу. Ты ж добра ведаў пра тое, які ёсць мой бацька, — гаварыла я яму далей. — Чаму ты яго паслухаў? Не трэба было слухаць яго табе! А цяпер — ну што я табе? У мяне ж ёсць ужо другі хлопец, і я пайду замуж за яго..."

Ён паслухаў мяне, паслухаў і паехаў сабе. А я выйшла замуж за таго другога. Жыццё нам неяк уладкавалася. Я стала працаваць агароднікам у тэхнікуме. Работа не вельмі каб цяжкая. Калі нарадзіла сына, дык ужо, во, другі год як сяджу на выхаваўчым водпуску. Хварэю, як сама бачыш. Ляжаць час ад часу тут мушу. А мой муж у лесе робіць. Прыйдзе з работы, ляжа на версальцы і ляжыць сабе. Нават сынам не забаўляецца. Усё на маіх руках, цэлы дом. Вугаль і той трэба насіць у нашым блёку, бо без цэнтральнага абагравання паставілі яго. Пра ўсё трэба самой бедаваць. Змяніўся, значыць, мой муж. Не дбае пра сябе, не дбае і пра мяне. А вып'е дзе, то і лаянку ад яго пачуеш; яму не падабаецца мая сям'я. Да свекраў пойдзем, то я свякрусе ўсё дапамагаю, а яна ўсё крывіцца, што не так пасуду памыла, не так падлогу працерла, не так парадак у пакоі навяла. Словам, што ёй ні зрабі, то ўсё будзе не так! І не ведаю я, чаго яна хоча. А цяпер, калі я ў бальніцы во, дык муж мой скардзіцца, што яму цяжка аднаму. Нарэшце дацаніў маю работу. Ён часам кажа, што я спецыяльна пайшла ў бальніцу, каб яму гэтым надакучыць. Паплачу я ў кутку, паплачу...

Вось як яно ёсць. Калі спакойны хлопец, то чортавай дзеўцы на шчасце трапіцца, а калі спакойная дзяўчына, то за нейкага буркліўца замуж прэцца. Чаму гэта так?

Данка ўсё расказвала, каб выгаварыцца, каб палягчыць гэтым сабе. А побач нас ляжала старэйшая жанчына, якая ўсё чытала ды чытала.

**Аўрора**




Дарагое Сэрцайка! Прабач, калі я не на тэму. Але куды, да каго ў гэтай справе звярнуцца, проста сама не ведаю. А справа тут банальная. Проста я вельмі люблю парфумы, і заўсёды, хоць не маю занадта многа грошай, стараюся купляць нейкія лепшыя. Мае сяброўкі на рабоце часам іранічна ўсміхаюцца, што быццам я замоцна напарфумаваная, часамі кажуць, што я напэўна не маю куды грошы выкідаць. Праўду кажучы, мяне гэта нават не раздражняе, бо найважнейшае — што мне гэта падабаецца, але проста ўжо абрыдла слухаць увагі. Што рабіць? Мо я і сапраўды раблю кепска, калі некаторыя нават пускаюць у мой бок шпількі наконт таго, што быццам бы не маю часу мыцца...

**Каця**

Каця! Твае сяброўкі не маюць рацыі. Вядома, пры адной умове, што ты сапраўды часта мыешся, а парфумы — гэта толькі дадатак да тваёй прыгажосці.

Барані Бог, каб дзяўчына выкарыстоўвала парфумы замест мыла, шампуню ці дэзадарантаў! Няма нічога горшага, як сумесь бруднага поту і парфумаў!

Вельмі важна, каб парфумы сапраўды падкрэслівалі прыгажосць жанчыны. І таму, між іншым, выбар парфумаў — гэта справа не такая простая, а я б сказала, нават даволі складаная. Што, напрыклад, падыходзіць брунэтцы, з тым не заўсёды будзе добра бландзінцы. Брунэтка можа сабе дазволіць на больш моцныя парфумы, саладкаватага запаху; бландзінка ж павінна выбіраць парфумы больш далікатныя. Запах жанчыны павінен у нейкай ступені адлюстроўваць і яе нутро.

І тут увага! Не раю моцна парфумавацца перад сустрэчай з каханым: гэта можа мець зусім адваротны вынік! Прынамсі трэба мець упэўненасць, што каханаму гэты арамат да спадобы.

Французжанкі парфумаў не шкадуюць, льюць іх на сябе даволі шчодра, але рэдка калі гэты дадатковы запах псуе іх абаяльнасць. Найчасцей ён робіць жанчыну яшчэ больш прывабнай.

**Сэрцайка**

P.S. Калі ўжо купляць парфумы, то добрыя і толькі добрыя.

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




**У апошнія дні мая ў Аўгустове каля Бельска адбыўся турнір шасці вёсак. Зухі з Кнарыдаў выступілі з патрыятычнай пастаноўкай, якую падрыхтавала з імі настаўніца Ніна Ігнацюк. На жаль, у Кнарыдах дзеці не вывучаюць беларускай мовы, таму выступалі яны па-польску. Маем надзею, што „Зорку“ ўсё ж прачытаюць. Фота В. Рудчыка**

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Аляксандр Пятрухін

### ДОБРЫ ВОЖЫК
КАЗКА

Чыжычыха выбіралася па здабычу — па мушкі ды казяўкі. У гняздзечку, якое знаходзілася на старой высокай елцы, заставаўся яе сыночак. Ён быў яшчэ зусім маленькі, не ўмеў лётаць. Маці загадала яму:

— Глядзі, чыжык, не высоўвайся з гнязда. Зваліўся на зямлю — цябе з'ядуць...

— Я буду ціхенька сядзець, — абяцаў чыжык.

Ён лёг на пасцельку з пырынак, закрыў вочы, каб заснуць. Але не давялося. Да яго даляцеў шум з зямлі — пішчэнне, тарахценне.

„Пагляджу хоць адным вочкам“, — вырашыў чыжык. Сказаў і зрабіў. Але нічога не ўбачыў.

А шум працягваўся. Чыжык не мог сябе стрымаць, узняўся на ножкі і... Вываліўся з гнязда. Хацеў было ўзмахнуць крыльцамі, але нічога не выйшла, яны былі яшчэ надта маленькія. Птушаня моцна ўдарылася аб зямлю і пачало клікаць маці.

На яго бяду побач прабягала лісіца. Пачуўшы крыкі яна спынілася, прыгледзелася. І вельмі ўцешылася. Не дзіва! Неспадзявана сняданак сам знайшоўся! — бездапаможнае птушаня.

Лісіца аблізнулася, падрыхтавалася скочыць на сваю ахвяру. Усё гэта бачыў добры вожык, які выйшаў са свайго дому пагрэцца на сонейку. Ён добра ведаў чыжычыху, сваю суседку па елцы, сябраваў з ёю. Хітрую лісіцу ён не любіў. „Не дастанеш ты чыжыка“, — сказаў вожык і накрыў птушаня сваім целам, выставіўшы іголкі.

Драпежніца, аслепленая прагнасцю, не заўважыла небяспекі. Яна скочыла, як думала, на чыжыка, а трапіла на вожыка. Боль быў такі моцны, што лісіца закрычала не сваім галасам на ўвесь лес і кінулася ўцякаць. Бяжыць і плача.

Насустрач ёй мядзведзь.

— Чаго кумка слёзы льеш?

— Ой, мішанька, — скардзілася лісіца, — хацела я было пагуляць з чыжыкам, а ён мяне іголкамі ўкалоў. Як тут не заплакаць?

— Іголкамі? — здзівіўся мядзведзь. — Нешта ты, кума, блытаеш. Дзе ж у чыжыка іголкі? Відаць, вочы цябе падманулі. Пераблытала птушачку з вожыкам.

Лісіца аж рот расчыніла: няўжо гэта быў вожык?

— Яшчэ пытаецца! — засмяяўся мядзведзь. — Вось бачыш, да чаго прагнасць даводзіць. На другі раз лепш глядзі.

Лісіца ад крыўды аж хвастом матнула. Трэба ж так — пераблытаць птушку з вожыкам! Які сорам! Цяпер з яе ўсе смяяцца будуць.

І праўда! Як толькі лісіца дабегла дадому, пачула, як вароны і стрыжы крычалі ёй наўздагон:

— Сляпая лісіца! Добра ёй так. Няхай не крыўдзіць безабаронных.

У гэты час вярнулася дадому чыжычыха. Бачыць — гняздо пустое. Яна туды-сюды — сыночка няма. Відаць, бяда з ім здарылася. Заплакала чыжычыха. Раптам чуе голас:

— Суседка; не бядуй. Жывы твой сынок, здаровы.

Глянула чыжычыха ўніз — і сэрца яе радасна забілася. Там, на зямлі, узняўшыся на слабенькіх ножках, стаяў яе чыжык, а побач з ім добры вожык.

Чыжычыха кінулася да сына — давай яго ласкаць, абдымаць.

— Вось да чаго вядзе непаслушнасць, — гаварыла яна. — Добра, што цябе, сынку, не з'елі.

— Маглі і з'есці, — сказаў вожык.

— Як маглі? — спалохалася чыжычыха.

— Мяне хацела з'есці лісіца, — вытлумачыў чыжык. — А вось добры вожык выратаваў мяне, пакалоў лісіцу іголкамі.

Чыжычыха кінулася да вожыка.

—Век дзякаваць табе буду,

(Працяг на стар. 10)

## ВЕРШЫ ЛІТОЎСКІХ ПАЭТАЎ

Э. Селяляніс

### РАНІШНІ МЁД

Ты сёння прачнуўся,
Здаецца, так рана —
А Сонца
Даўно ўжо
Працуе старанна.
Сагрэтая ім,
Абудзілася
Краска.
Яна папрасіла Пчалу
„Калі ласка!“
А тая —
Заносіць мядочак
У соты...
Мядку паспытаць
Ты не маеш ахвоты?
Дык вось,
Каб табе
Без яго
Не застацца —
Ўставай,
Апранайся хутчэй
І — за працу!
Таму,
Хто свой дзень
Пачынае з турбот,
Духмяны
Бурштынавы
Ранішні мёд!

А. Матуціс

### САМЫ ВЯЛІКІ ЛАЙДАК

Адна
Мурашка,
Як ні цяжка,
З хваёвай галькаю
даўгой
Паўзла
Сцяжынкаю лясной.
Ляжаў мядзведзь
У цяню
Ляна
І на яе
Знянацку
Глянуў.
— Скажы малая ты
пясчынка,
Куды спяшаеш так
Сцяжынкай?
— Мы цэлы час
Будуем дом.
Работа ў нас
Кіпіць кругом.
— Ты лепш прысела б
Вунь пад елкай, —
Гаворыць Мішка, —
Ды пад'ела,
Ды паляжала б
Там на моху.
Ляжы,
Як я —
Таўсцей
Патроху.
Вось я
Век не рабіў, павер.
А хто
Вялікі
Самы
Звер?
Мурашка
Мішку кажа так:
— Вялікі самы ты...
Лайдак!

Пераклаў з літоўскай мовы
Павел Марціновіч

## СЛУХАЙЦЕ І СПЯВАЙЦЕ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё ў суботу 9 жніўня а 18-й гадзіне.

### СПАДЧЫНА

Словы Я. Купалы
Музыка І. Лучанка

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай.

Прыпеў:

Аб ёй мне баюць казкі-сны
Вясеннія праталіны,
І лесу шэлест верасны,
І ў полі дуб апалены.

Аб ёй мне будзіць успамін
На ліпе бусел клёкатам
І той стары амшалы тын,
Што лёг ля вёсак покатам.

Прыпеў.

І тое нуднае ягнят
Бляянне-зоў на пасбішчы,
І крык вароніных грамад
На могілкавым кладбішчы.

Прыпеў:

Жыве з ёй дум маіх сям'я
І сніць з ёй сны нязводныя.
Завецца ж спадчына мая
Ўсяго старонкай роднаю.







Мэтанакіраванасць.

### ГОРШАЯ БЯДА

— Ваша жонка ўвесь дзень бурчыць, чапляецца, сварыцца з вамі. Як вы гэта выносіце?

— Гэта глупства! Паслухалі б вы яе ў добрым настроі, калі яна ўвесь дзень спявае!

### НА ЛОБЕ НАПІСАНА

Раніцай Віця так старанна цёр лоб, што маці не вытрымала і спытала:

— Што сталася?

— Ды ўчора настаўніца казала, што ў мяне на лобе напісана, што я не ведаю ўрока, — вытлумачыў Віця. — А я і сёння не ведаю...

### ДЫЛЕМА

— Я чуў, ты ўсе вечары праводзіш у Манькі. Чаму ты з ёю не ажэнішся?

— Я і сам думаў аб гэтым. Ды дзе я тады буду праводзіць вечары?

### НУ І НУ

— Ці праўда, што ўчора Шастовіч тройчы скокнуў на вялікую вышыню і ні разу не збіў планку?

— Праўда.

— А чаму не залічылі яму рэкорд?

— Таму што ён кожны раз пралятаў пад планкай.

### ПАДПУСКНЫ

— Скажыце, калі ласка, ваш ланцуговы сабака падпускае да сябе?

— Вядома! Інакш як ён зможа вас укусіць!



Нарэшце знайшоў сябе, але выявілася, што гэта ўжо зусім іншы чалавек.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Сустрэліся дзве суседкі. Вось адна і кажа:

— А я на латарэі выйграла сто чырвонцаў!..

— А навошта вы мне пра гэта гаворыце?

— Ды проста хачу з вамі сваёй радасцю падзяліцца...

— Пхі... Радасцю... Вось калі б вы са мною грашамі падзяліліся, вось была б радасць...

*

Каля ранча спынілася стада бараноў і ўтаропілася на вароты.

— Чаго яны глядзяць? — спыталі ў пастуха. — Дык вароты старыя?

— Бараны новыя, — адказаў пастух.

*

— Слухай, Сціў, гэта праўда, што Джо пасадзілі?

— Так, Дзік, тыдзень назад.

— А ён мне сказаў, што выязджае на паўгода да брата.

— Усё правільна. Яго брат таксама сядзіць.

### МІНІВЕРШЫ

Ён сям'ю, дабрабыт
Прамяняў на гарэлку.
А цяпер хоць ты лезь
Галавою у пельку.
Ці вечарам, ці ранкам —
Адна толькі маркота:
Там, дзе пачатак п'янкі,
Заўжды канец работы.

У. Рыгораў

### З „Весніка Задрыпоніі"

#### НА ЗАДВОРКАХ

Незаслужана абойдзены ўвагай такі вядомы від спорту, як скачкі ў шырыню. Жыхары новых кварталаў гор. Ачуцінава пераканаўча просяць будаўнічае і дарожнае кіраўніцтва ўключыць яго ў спісак традыцыйных гульняў міжсезоння.

#### ПРАВІЛА МАЙСТРА ДУБОВІЧА

Не спазняйся на нараду — будзеш сядзець у першых радах.





— Запамятай раз і назаўсёды! Калі я гавару „мілы мой", я маю на ўвазе толькі яго!..



— Хоць бы ветрык які! Нешта яблычка захацелася...

## Курёзы

У шлюбных аб'явах французскіх газет нярэдка можна натрапіць на заклікі самотных мужчын, якія мараць аб сапраўдным і вечным каханні. І вось некалькі з іх атрымалі лісты з паштовым штампам Буэнас-Айрэс. У канвертах было фота бразільскай каралевы прыгажосці; у самых жа лістах прыгажуня пісала, што, калі яна спадабалася адрасату, дык хай ён перавядзе ёй 1500 долараў для падарожжа ў Еўропу.

Дванаццаць французаў, якім яна прыпала да сэрца, пасля працяглай перапіскі пераважылі грошы на ўказаны адрас. Але бразільская прыгажуня пасля гэтага быццам пісаць развучылася, ды й наогул нічым не давала пра сябе знаць. Тады жаніхі звярнуліся да французскай паліцыі, і тая хутка высветліла гэту гісторыю. Аўтарам лістаў была 28-гадовая француженка Брыё з горада Нанта, якая ў той час ужо паспела адправіцца ў Бразілію. У лісце, які пакінула прэтэндэнтам на яе руку, мадэмуазель Брыё падзякавала ўсім ім за давер да яе і за грошы, якія далі ёй магчымасць выехаць да свайго бразільскага сябра і распачаць з ім новае жыццё на салідняй фінансавай аснове.




Што яшчэ так можа ўзвялічваць чалавека, як думка пра сваю веліч?